*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

***№37 травень 2014***

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

***Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь***

## Выйшла кніга Алеся Бяляцкага “Іртутнае срэбра жыцьця” пра падзеі 2010-2011 гадоў




***Кніга напісана Алесем Бяляцкім падчас ягонага зняволення: з верасня 2012 па чэрвень 2013 года. Выданне ўключае ў сябе лісты з успамінамі, рэфлексіямі і развагамі, тут апісаны і звычайныя працоўныя будні, падзеі, што папярэднічалі арышту праваабаронцы, міжнародныя паездкі. Назва кнігі даволі вобразная, Алесь імкнуўся праз яе перадаць зменлівасць і небяспечную прыцягальнасць, пэўную халоднасць жыцця.***

***“Пісаць пра падзеі 2010-2011 гадоў і лёгка, бо яны, здаецца, добра-такі адбіліся ў маёй памяці, і цяжка, бо ўсё ж час няўмольна зьядае сьвежыню эмоцыяў, сотні і тысячы дробных дэталяў, якія ствараюць шматфарбную карціну жыцьця. Набягаюць новыя падзеі, новыя ўражаньні, якія адцясняюць і заціраюць старыя”, – напісаў Алесь Бяляцкі ў адным з лістоў.***

## Марціна Углу не пусцілі ў Беларусь



Кіраўнік швэдзкай праваабарончай арганізацыі Ostgruppen Марцін Угла, якога 7 траўня не пусьцілі ў Беларусь і трымалі пад вартай у транзытнай зоне аэрапорту, ужо знаходзіцца ў Вільні. Адтуль ён вяртаецца ў Стакгольм.

Марцін Угла паведаміў, што яму так і не патлумачылі, чаму не пусьцілі ў Беларусь:

Угла кажа, што адзінае сьведчаньне ягонай няўдалай вандроўкі ў Менск — гэта пячатка ў пашпарце пра тое, што яму забаронены ўезд на тэрыторыю Беларусі.

Праваабаронца прызнае, што трапіць у Беларусь яму бліжэйшым часам «нерэальна»:

«Але я хачу пабываць у Беларусі і, натуральна, буду спрабаваць гэта зрабіць. Я ня буду маўчаць і ня буду спыняць крытыку за парушэньне правоў чалавека», — заявіў Марцін Угла ў інтэрвію Радыё Свабода.

## Гародня: абласны суд як звычайна на баку раённага



6 траўня ў Гарадзенскім абласным судзе адбыўся разгляд касацыйных скаргаў грамадскіх праваабаронцаў Віктара Сазонава і Уладзіміра Хільмановіча на пастановы суду Ленінскага раёну гораду, якімі яны былі засуджаныя да вялікіх штрафаў. Напомнім, што 3 красавіка бягучага году суддзёй Наталляй Козел у раённым аддзяленні міліцыі Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч і Раман Юргель былі прызнаныя вінаватымі ў правядзенні 25 сакавіка нібыта несанкцыянаванага пікету і засуджаныя да выплаты грашовых штрафаў – па 25 базавых велічынь кожны. Усё “парушэнне” заканадаўства палягала ў тым, што праваабаронцы ў Дзень Волі сфатаграфаваліся ля помнікаў і гістарычных мясцінаў з бел-чырвона-белымі, а таксама ўкраінскімі сцяжкамі і выставілі фотаздымкі ў інтэрнэце з віншаваннямі жыхарам Гародні.

## Гародня: абласны суд не задаволіў скаргу Алеся Дзянісава




13 траўня Гарадзенскі абласны суд разглядзеў касацыйную скаргу сябра БАЖ Алеся Дзянісава на пастанову суду Ленінскага раёну. Напомнім, што 4 красавіка суддзя Юрый Казакевіч у выніку разгляду адміністрацыйнай справы пакараў журналіста штрафам 30 базавых велічынь, што складае 4 мільёны 500 тысяч беларускіх рублёў. Гарадзенская міліцыя інкрымінавала Алесю Дзянісаву парушэнне часткі 2 артыкулу 22.9 КААП – незаконны выраб і распаўсюд інфармацыі. 6 лютага 2014 году Алесь Дзянісаў запісаў відэаматэрыял, які пазней выкарыстаў спадарожнікавы тэлеканал “Белсат” у адным з выпускаў сваіх навінаў. Сюжэт датычыў пастаноўкі спектаклю “Фаўст. Сны”.

## Гародня: Адміністрацыйны працэс над Андрэем Мялешкам




30 траўня ў судзе Кастрычніцкага раёну Гародні пачаўся адміністрацыйны працэс супраць незалежнага журналіста Андрэя Мялешкі. Яго вінавацяць у незаконным вырабе і распаўсюдзе інфармацыйнай прадукцыі.

Справу на Андрэя Мялешку пачалі за яго матэрыял, які быў апублікаваны ў красавіку на сайце Беларускага Радыё Рацыя. Сёння з ініцыятывы суддзі на месца яго пражывання з’явіўся міліцыянт для прыводу журналіста ў суд. Аднак, Мялешкі не было дома. Журналіст выказаў з гэтай нагоды Дзмітрыю Кедалю абурэнне дзеяннямі суддзі, бо ён не збіраўся хавацца і яшчэ ўчора паведаміў сакратарцы суду, што з’явіцца на працэс.

# Новы адлік

**_25 траўня бягучага году ў суседняй з намі краіне пачаўся новы гістарычны адлік. Украіна шосты раз выбірала свайго прэзідэнта, але выбар гэты быў асаблівы і ўнікальны. Прэзідэнта выбіралі ня проста датэрмінова. Прэзідэнта абіралі ва ўмовах знешняй агрэсіі Расеі, ва ўмовах фактычна вайны на ўсходзе краіны, доўгагадовай стомленасці і расчараванасці грамадства. 25 гадоў Украіна пакутліва_**

Найноўшыя падзеі выразна паказалі, што ўкраінцы маюць спелую здаровую нацыю, але ня маюць моцнай нацыянальнай дзяржавы. Парадоксу тут няма ніякага. З пачатку незалежнасці ва Украіне не былі праведзены патрэбныя рэформы, не была зроблена люстрацыя і ёй падобныя рэчы. Ніхто не змагаўся з карупцыяй і хабарніцтвам. З кожным новым кіраўніцтвам гэтая іржа толькі раз'ядала краіну. Несправядлівая і злачынная сістэма не ўзнікла толькі пры прэзідэнту Віктару Януковічу, яна засталася ў спадчыну яшчэ ад савецкага часу і развівалася і пры Леаніду Краўчуку і пры Леаніду Кучму. Нічога кардынальна пазітыўнага ня здолелі зрабіць і прэзідэнт Віктар Ючшанка з прэм'ерам Юліяй Цімашэнкай пасля перамогі аранжавай рэвалюцыі. Альбо не паспелі зрабіць, страціўшы крэдыт даверу. Ну а за кадэнцыю Януковіча палітычная і сацыяльная несправядлівасць стала настолькі відавочнай, што народ паўстаў. Майдан зрынуў антынародны ўрад. Так што зараз перабудоўваць украінскую дзяржаву належыць наноў. І вялікая гістарычная місія кладзецца на новаабранага прэзідэнта Пятра Парашэнку і тых, каго ён паставіць на вышэйшыя дзяржаўныя пасады цяпер.

Асабіста для мяне застаецца загадкай – як так здарылася, што ўкраінскі народ выбраў алігарха Пятра Парашэнку ўжо з першага туру. Тым больш, што на гэты раз годных кандыдатаў было сапраўды нямала. Але абраў адразу – значыць паверыў. Людзі па некалькі гадзінаў стаялі на выбарчых дзяльніцах у даўжэзных чэргах, толькі для таго каб прагаласаваць. Выбарчая актыўнасць была надзвычай высокай. І права на памылку ў новага прэзідэнта і яго каманды ўжо няма. Занадта дарагую цану заплаціла і плаціць украінская нацыя за станоўчыя змены ў сваёй дзяржаве. Некалькі сотень людзей ахвяравалі сваім жыццём, на ўсходзе краіны ідзе вайна з імперскім агрэсарам і мясцовымі бандытамі, якія імкнуцца знішчыць Украіну, ненавідзяць усё ўкраінскае. У вельмі цяжкай сітуацыі апынуліся тыя жыхары, якія фактычна сталі закладнікамі ўзброеных прарасейскіх і засланых расейскіх тэрарыстаў. Фактычна 25 траўня ў Данецкай і Луганскай абласцях паўнацэнныя выбары прэзідэнта правесці не ўдалося. Надзвычай шкада і патрыётаў Украіны, якія засталіся ў акупаваным без баёў Крыме – іх кінулі ўсе, ім зараз ніхто не дапамагае. Ці знойдзе новая ўлада магчымасці падумаць і пра іх? Яна, новая ўлада, зараз мусіць выявіць усё – сілу і мудрасць, прынцыповасць і абачлівасць, цвёрдасць і здольнасць дамаўляцца, ісці на кампраміс адначасна.




Выбары ва Украіне вывелі на палітычную авансцэну і новых лідараў – маладых прыгожых палітыкаў, якія любяць сваю краіну і ведаюць якім шляхам трэба ісці. Якія гатовыя ўзяць на сябе адказнасць у разе, калі не дадуць рады іншыя. Такіх як Алег Ляшко, які стаў трэцім па выніках прэзідэнцкага галасавання. Як Леся Оробец, якая заняла другое месца на выбарах мэра сталічнага Кіева. Нам, беларусам, застаецца пакуль толькі зайздросціць новаму гістарычнаму шанцу паўднёвых суседзяў.

Шмат будзе залежыць і ад знешніх фактараў – роўню і ступені агрэсіі Расеі, пазіцыі і падтрымкі Захаду. Няма сумневу, што новы прэзідэнт будзе прызнаны ўсімі цывілізаванымі дзяржавамі, але што далей… Новай уладзе Украіны вельмі важна прывесці краіну ў НАТА, што стане значным гарантам знешняй бяспекі.

На Украіне пачынаецца новы адлік. Там будзе ня проста, там будзе вельмі цяжка, верагодна, што давядзецца плаціць яшчэ больш высокую цану. Няма сумневу толькі ў адным – новай унутранай дыктатуры ва Украіне больш ня будзе. Яе не дапусціць украінскі народ – галоўны гарант незалежнасці і свабоды. І дай Бог, каб у іх усё атрымалася.

*Уладзімір Хільмановіч*

# Хроніка правапарушэнняў
## ( Гародня, студзень - сакавік 2014 г. )

### Адміністрацыйныя справы супраць актывістаў грамадзянскай супольнасьці;

За справаздачны перыяд прайшлі новыя адміністрацыйныя справы супраць актывістаў грамадзянскай супольнасці ў рэгіёне – яны былі зафіксаваныя ў Гародні і Ваўкавыску. Характэрным у дадзены перыяд была яскравая дыскрымінацыя Былі зафіксаваныя розныя іншыя, ужо “традыцыйныя” формы дыскрымінацыі і пераследу, у прыватнасці адмовы ў правядзенні публічных мерапрыемстваў, якія набылі ўжо сістэмны і ўсеагульны характар, а таксама ціск на грамадскіх актывістаў па месцы працы, выклікі ў міліцыю незалежных журналістаў.

**12 лютага** ў Гародні адбыліся адміністрацыйныя працэсы над сябрамі Аб’яднанай Грамадзянскай Партыі, удзельнікамі выбарчага пікету на вуліцы Ажэшкі **7 лютага.** У выніку тры чалавекі – Аляксандра Васілевіч, Ежы Грыгенча і Руслан Кулевіч былі засуджаныя да штрафаў памерам 15 базавых велічыняў. Ірына Давідовіч, сябра АГП з Іўя, была аштрафаваная на 10 базавых велічыняў. Сябры АГП былі выкліканыя ў Ленінскі РАУС Гародні з самай раніцы. Цэлы дзень іх трымалі ў міліцыі, не выпусціўшы нават паабедаць. Пасля 14.30 у РАУС прыехала суддзя Алена Пятрова, якая і аформіла карныя выракі. Міліцыя і суддзя палічылі, што актывісты АГП парушылі заканадаўства, паколькі збіралі подпісы супраць увядзення новага падатку на аўто.

**17 сакавіка** ваўкавыскі грамадскі актывіст Віталь Гуляк раённым судом засуджаны да грашовага штрафу памерам 10 базавых велічынь. Гуляк быў затрыманы ваўкавыскай міліцыяй **13 сакавіка** за тое, што праводзіў адзіночны пікет у падтрымку Ўкраіны. Суддзя Ваўкавыскага раённага суду Мікалай Талашка аштрафаваў грамадскага актывіста, а таксама пастанавіў знішчыць матэрыялы ўдзельніка пікету.

У пачатку красавіка стала вядома, што міліцыя пачала адміністрацыйныя справы супраць праваабаронцаў Віктара Сазонава, Уладзіміра Хільмановіча і Рамана Юргеля, якія правялі віншавальную акцыю **25 сакавіка**. Пазьней яна была трактаваная міліцыяй і судом як несанкцыянаванае мерапрыемства.

### Іншыя формы пераследу, дыскрымінацыі і парушэння заканадаўства з боку ўладаў

У пачатку студзеня сябру Рады Праваабарончага цэнтра “Вясна” Тацяне Равяцы было даслана паведамленне за подпісам намесніка начальніка Ашмянскай мытні А.В. Датчука, у якім сказана, што мытня атрымала з Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Гродненскага аблвыканкаму заключэнне экспертнай камісіі па выніках вывучэння друкаванага выдання “Асьвечаныя Беларушчынай”, аўтарам якога з’яўляецца праваабаронца і літаратар, палітвязень Алесь Бяляцкі. Кнігу Алеся Бяляцкага “Асьвечаныя Беларушчынай” забаранілі да ўвозу ў Беларусь.

**13 студзеня** Іна Соркіна, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, выкладчыца Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы была звольненая з працы. Пры тым былі зафіксаваныя істотныя парушэнні ўніверсітэцкага заканадаўства.

**13 студзеня** адбылося судовае паседжанне па скарзе грамадскага актывіста Мікалая Уласевіча на дзеянні Астравецкага райвыканкаму, які адмовіў яму праводзіць пікет 7 снежня мінулага году па заяўленай тэме: “Карупцыянераў да адказнасці!”. Разгляд быў перанесены. 16 студзеня суд адмовіў актывісту ў задавальненні скаргі.

**18 студзеня** гарадзенскі навукоўца, публіцыст Алесь Астроўскі быў выкліканы ў абласную пракуратуру. Ад прастаўніка абласной пракуратуры Валерыя Павядайкі Алесь Астроўскі атрымаў вуснае папярэджанне за публікацыю і інтэрв'ю незалежнаму выданню адносна існуючай палітычнай сістэмы ў Беларусі.

**21 студзеня** ЦВК адмяніў рэгістрацыю абедзвюх ініцыятыўных груп грамадскага актывіста Мікалая Уласевіча, вырашыўшы, што раённая камісія дапусціла парушэнне часткі 5 артыкулу 60 Выбарчага кодэксу, згодна з якой грамадзянін можа вылучацца кандыдатам у дэпутаты мясцовага савету толькі па адной выбарчай акрузе.

**23 студзеня** Уласевіч накіраваў скаргу ў Вярхоўны суд на рашэнне Цэнтральнай камісіі.

**24 студзеня** ваўкавыскі грамадскі актывіст Віталь Гуляк атрымаў адмову ў правядзенні пікету на знак салідарнасці з украінскім Майданам. 9 студзеня ён падаў заяўку на правядзенне ў гарадскім парку Ваўкавыску (гэтае месца афіцыйна вызначанае ўладай для правядзення масавых мерапрыемстваў) 25 студзеня інфармацыйнага пікету на знак салідарнасці з украінскім народам у яго памкненні ісці ў Еўразвяз. Афіцыйны адказ

датаваны **17-м студзеня.**

Грамадскі актывіст з Астравецкага раёна Мікалай Уласевіч атрымаў афіцыйны адказ з Вярхоўнага суда, дзе ён спрабаваў абскардзіць пастанову ЦВК па скасаванні рэгістрацыі дзвюх ягоных ініцыятыўных груп. Вярхоўны суд рашэннем суддзі В. Г. Кулік ад **29 студзе**ня падтрымаў рашэнне ЦВК і адмовіў у пачынанні грамадзянскай справы.

У Гародні **4 лютага** раённыя адміністрацыі сфармавалі ўчастковыя выбарчыя камісіі ў стылі алегра. У Ленінскім раёне старшыня паседжання адмыслова вылучыў нейкі час, каб растлумачыць усім прысутным, што заканадаўства не абавязвае пускаць на паседжанне незалежнага назіральніка, грамадскага праваабаронца Віктара Сазонава. У абодвух раёнах камісіі сфармавалі за 15-20 хвілін.

6 лютага ў Вялікай Бераставіцы абвесцілі папярэджанне Алегу Рамашкевічу за раздачу газет. Выбарчыя камісіі палічылі недапушчальным раздачу газет, надрукаваных накладам 299 асобнакаў – “Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада)” і “Голас памежжа”, якія раздаваў Алег Рамашкевіч падчас збору подпісаў. Камісіі палічылі, што ў газетах утрымліваецца агітацыйны матэрыял, які звязаны з прэтэндэнтам на кандыдатства.

**10 лютага** незалежнага журналіста Юрыя Дзешука з Бярозаўкі Гарадзенскай вобласці дапыталі ў Лідскай раённай пракуратуры. Пракурор пытала ў яго, ці працуе ён на польскае радыё і на якія замежныя сродкі масавай інфармацыі ён працуе.

**14 лютага** актывістаў АГП Аляксандру Васілевіч у Гародні і Мікалая Уласевіча ў Варнянах выклікаў крымінальны вышук у пытаньні подпісаў на партыйных пратаколах па вылучыньні кандыдатаў у дэпутаты.

**14 лютага** Слонімская раённая выбарчая камісія абвесціла папярэджанне сябру БХД Барысу Кучынскаму за пікет, які ён праводзіў з паплечнікамі 8 лютага. Папярэджанне было зроблена за раздаванне інфармацыйных бюлетэняў.

**20 лютага** незалежны журналіст з Бярозаўкі Юры Дзяшук атрымаў папярэджанне за супрацоўніцтва з Беларускім Радыё Рацыя ад галоўнага пракурора Лідскага раёна Станіслава Дмухоўскага.

**28 лютага** адбылося паседжанне Гарадзенскай абласной выбарчай камісіі, на якім разглядаліся скаргі незарэгістраваных па розных акругах вобласці кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў. Агулам камісіяй было разгледжана 9 скаргаў ад 8 розных грамадзянаў. Аніводная з іх (!) не была задаволена.

**3 сакавіка** Гарадзенскі абласны суд не задаволіў скаргу грамадскага актывіста з Варнянаў Мікалая Уласевіча, якую ён падаў на адмову ў рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты абласнога савету.

**6 сакавіка** Гарадзенскі абласны суд не задаволіў скаргу грамадскага актывіста з Астраўца Івана Крука, якую ён падаў на адмову ў рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты раённага савету.

**10 сакавіка** адзінага кандыдата ў дэпутаты Гарадзенскага гарсавету ад партыі БНФ Вадзіма Саранчукова гарадская выбарчая камісія “зняла” з выбарчага працэсу. Падстава – ніюыта парушэнні ў дэклярацыі даходаў, хоць сьпярша камісія зарэгістравала Саранчукова.

**11 сакавіка** ў гарадзенскім абласным судзе прайшоў разгляд скаргаў трох актывістаў Аб’яднанай грамадзянскай партыі – Аляксандры Васілевіч, Ежы Грыгенчы і Алены Давідовіч. Яны аспрэчвалі незаконны прысуд ім штрафаў. Суддзя Андрэй Кавальчук не задаволіў касацыйныя скаргі.

**17 сакавіка** грамадскаму актывісту Мікалаю Уласевічу не дазволілі балатавацца нават у сельскі Савет па Варнянскай выбарчай акрузе №4. Адпаведным рашэннем выбарчай камісіі яго пазбавілі статусу кандыдата ў дэпутаты. Фармулёўка пастановы Варнянскай камісіі – нібыта за заклік да байкоту выбараў, які быў змешчаны ва ўлётцы кандыдата.

**17 сакавіка** Гарадзенская абласная камісія не задаволіла скаргу Вадзіма Саранчукова на скасаванне рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты гарсавету.

**19 сакавіка** Ваўкавыскі раённы суд адмовіў Гуляку ў задавальненні скаргі на дзеянні службовай асобы Ваўкавыскага райвыканкама – намесніка старшыні райвыканкаму Уладзіміра Захарчука па дзвюх ранейшых заяўках на правядзенне шэсця і пікету. Заявы падаваліся Гуляком на 25 студзеня і на 19 лютага 2014 года – у правядзенні мерапрыемтсваў было адмоўлена.

**21 сакавіка** Астравецкі раённы суд не задаволіў скаргу Мікалая Уласевіча на скасаванне рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты сельскага савету. Суддзя Аляксандар Дзямешчык узяў бок прадстаўнікоў выбарчай камісіі.

**24 сакавіка** гарадзенскі журналіст-фрылансер Алесь Дзянісаў быў выкліканы ў міліцэйскае аддзяленне, дзе на яго быў складзены пратакол пра нібыта адміністрацыйнае правапарушэнне – за тое, што ён зняў відэа ў гарадзенскім лялечным тэатры – “незаконны выраб і распаўсюд інфармайнага матэрыялу”.

**25 сакавіка** гарадзенская міліцыя фактычна на паўдня затрымала грамадскага актывіста Алеся Кіркевіча. Спачатку ён быў выкліканы незразумелай позвай на 15-ю гадзіну ў аддзяленне міліцыі №1, што ў цэнтры гораду, для апытання і “прафілактычнай гутаркі”. Пасля на кватэры Кіркевіча з удзелам панятых быў праведзены агляд памяшкання на прадмет забароненых матэрыялаў. У міліцыі дапытваліся пра датычнасць да ўлётак з заклікам байкатаваць расейскія тавары, якія нібыта з’явіліся ў раёне пражывання актывіста.

**31 сакавіка** судовая калегія Гарадзенскага абласнога суду ў складзе суддзяў Уладзіслава Міхневіча, Аляксандра Калесніка і Ларысы Паляковай не задаволіла скаргу Тацяны Равякі на рашэнне Ашмянскага раённага суду, які прызнаў законнай забарону на ўвоз у Беларусь кніжкі палітвязьня Алеся Бяляцкага “Асьвечаныя беларушчынай”.

# Інфармацыйная вайна

***Часамі здзіўляешся, наколькі эфектыўнымі бываюць самыя прымітыўныя метады абалваньвання шырокіх мас насельніцтва. Галоўнае, правільна падрыхтаваць глебу для гэтага пасеву. Як некалі сцвярджаў вядомы гітлераўскі ідэолаг, чым больш людзей знаходзіцца ў закрытай інфармацыйнай прасторы, тым лягчэй з іх ляпіць што заўгодна. Аднаго чалавека, адарванага ад разнастайнасці інфармацыі і пазбаўленага яе выбару і аналізу, ён браўся зрабіць фашыстам за паўгады. Калі такіх людзей сто, то за месяц. Ну а калі іх тысяча, то за тыдзень. Таму і заклікаюць лепшыя розумы чалавецтва да індывідуальнага роздуму. Маўляў, не збірайцеся людзі ў кучу, бо самі ж ведаеце, як гэта называецца. Але іх цяжка пачуць тым, хто ўжо меў неасцярожнасць патрапіць у бяздумную масу.***

Жандармы ніколі не былі вынаходлівымі ў філасофіі і іх метады перакананння настолькі прымітыўныя, што аніяк не могуць падзейнічаць на думаючага індывіда. Таму таталітарныя рэжымы заўсёды супраць індывідуалізму і збіраюць людзей, як кажуць у народзе, да стойла. Калгасы ды іншыя так званыя працоўныя калектывы гэта не эканамічныя адзінкі, а ідэалагічныя. Бо там любое глупства пададзенае ў выглядзе лозунгу, кшталту “Вучэнне Леніна вернае – таму што правільнае”, падаецца ісцінай у апошняй інстанцыі. Бо няма інфармацыі альтэрнатыўнай.

У нас, у Беларусі, да свабоднага выбару інфармацыі чалавек не прывучаны. Гэтая звычка знішчаная яшчэ за часамі СССР. Калі я патрапіў у войска, у Чэхаславакію, то ўголас здзівіўся, як жыхары гэтай краіны негатыўна ставяцца да савецкага “вызваліцеля”. І мне з калегамі адразу ж і доўга распавялі, што гэтых няшчасных чэхаў падманулі і спакусілі сытым жыццём заходнікі. І што яны, чэхі, Захаду зусім не патрэбныя. Патрэбная тым капіталістам толькі іх зямля ды іх багацце. Ну а самых чэхаў, славакаў, венграў, румынаў, палякаў і нават усходніх немцаў заходнікі выкарыстаюць і знішчаць. І што самае страшнае, большасць нашых салдат у гэта паверылі і шчыра збіраліся ваяваць за іх шчасце супраць іх жа. А то прападуць жа без нас… Вось так, дзеля злых намераў, былі выкарыстаныя добрыя якасці чалавечай натуры. Бо не знайшлося другой інфармацыі.

А савецкія прапагандысты ўжо знеслаўлялі прыбалтаў, за тое што таксама хочуць жыць па-людску. І казалі пра іх тое самае, што некалі пра чэхаў, венграў, палякаў… І знайшліся тыя, хто і ў гэта паверыў. Хоць ўбачылі ўжо на свае вочы, што тым, хто ўцёк, стала лепш, што ўсе, хто вырваўся з палону савецкай імперыі, назад не просяцца. Але ж прапаганда моцная штука, калі няма каму яе абвергнуць.




Цяпер мы ўсё гэта чуем пра ўкраінцаў. Адзін у адзін. І што самае страшнае – хапае тых, хто гэтую прымітыўную прапаганду ўспрымае. У Беларусі такіх людзей менш, чым у Расеі. Бо да нас тут хоць нейкая альтэрнатыва з-за мяжы даходзіць. А ў Расеі ўвогуле замбаванне пераўзышло ўсе разумныя і нават неразумныя межы. І людзі там ужо нават не задаюць сабе простыя пытанні: – Чаму, калі расейская ўлада ганьбіць Захад, чаму менавіта там яна трымае свае грошы, вілы, бізнес? Чаму іх улада ездзіць на заходніх машынах? Чаму дзяцей сваіх пасылаюць вучыцца ў Лондан а не ў Калугу? Чаму амаль кожны расеец, якому ўдаецца атрымаць від на жыхарства на Захадзе, назад не спяшаецца? І пасля гэтага ці можна паверыць, што некалькі мільёнаў жыхароў усходу Украіны не хочуць мець мажлівасці жыць у Еўразвязе?! Але ж многія вераць…

Сапраўды, масавая прапаганда робіць сваю справу. І ўсё гэта з-за адсутнасці шырокай альтэрнатыўнай інфармацыі, якая дазваляе чалавеку самому рабіць высновы. На паслясавецкай прасторы зроблена ўсё, каб яе было настолькі мала, што і не чуваць амаль. Як тады, у СССР. І зроблена гэта, каб той СССР адрадзіць. Мажліва ў выглядзе іншай імперыі, з іншай назвай. Галоўнае, што з той самай сутнасцю, дзе аднабока інфармаваны чалавек становіцца проста робатам. Знішчэнне альтэрнатыўнай інфармацыі – галоўная прыкмета адраджэння савецкай імперыі. І ці ўдасца тую імперыю адрадзіць, залежыць таксама і ад таго, хто зараз возьме перавагу ў інфармацыі.

***Віктар Сазонаў***

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на чэрвень 2014 году

**1 чэрвеня**

Міжнародны дзень абароны дзяцей.

580 гадоў таму (1434) – Памёр вялікі князь і кароль Ягайла (нар. каля 1348).

**3 чэрвеня**

90 гадоў таму (1924) – У в. Глоўсевічы (Слонімскі р-н) нарадзіўся Іван Тарасюк, удзельнік беларускага патрыятычнага падполля на Слонімшчыне ў 1946-47.

**4 чэрвеня**

30 гадоў таму (1984) – Памёр Іван Хомчык, удзельнік беларускага патрыятычнага падполля на Слонімшчыне ў 1946-47. Пахаваны ў в. Глоўсевічы (Слонімскі р-н).



**5 чэрвеня**

Міжнародны дзень аховы навакольнага асяроддзя.

6 чэрвеня

195 гадоў таму (1819) – У Сьвіслачы адкрылася гімназія.

**7 чэрвеня**

30 гадоў таму (1984) – Памёр Іван Мазалеўскі (нар. у 1894 у в. Вайнілавічы Мастоўскага р-ну), беларускі народны казачнік.

**9 чэрвеня**

205 гадоў таму (1809) – Памёр Францішак Хамінскі (дата нар. невядомая), пісьменнік, грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся на Слонімшчыне.

95 гадоў таму (1919) – На зьезьдзе была ўтворана Цэнтральная беларуская рада Віленшчыны і Гарадзеншчыны.

85 гадоў таму (1929) – У Гародні пачаўся так званы працэс 75-і – суд, арганізаваны польскімі ўладамі над дзеячамі заходнебеларускага вызвольнага руху (доўжыўся да 21 чэрвеня 1929 г.).

**10 чэрвеня**

220 гадоў таму (1794) – У Гародні ўтвораная Цэнтральная дэпутацыя Вялікага Княства Літоўскага – выканаўчы орган паўстаньня 1794 г.

**13 чэрвеня**

155 гадоў таму (1859) – У Лідзе нарадзіўся Канстанцін Горскі, кампазітар, музыкант-скрыпач.

15 гадоў таму (1999) – У Варшаве Папа Ян Павал II абвесьціў пра 108 новых блаславёных, мучанікаў II сусьветнай вайны. Сярод іх 12 асобаў зь Беларусі.

**14 чэрвеня**

380 гадоў таму (1634) – Паміж Рэччу Паспалітай і Расейскай дзяржавай была падпісана Палянаўская мірная дамова.

**16 чэрвеня**

15 гадоў таму (1999) – Памёр Мікола Нікан, настаўнік, вайсковец, дзеяч беларускай эміграцыі (Вялікабрытанія, Аўстралія). Выкладаў у 1930-ыя на настаўніцкіх курсах у Гародні. Пахаваны ў Мэльбурне.

**18 чэрвеня**

125 гадоў таму (1889) – У Ваўкавыску нарадзіўся Уладзімер Каліноўскі (расстраляны ў савецкім зьняволеньні (1940-?)), беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, публіцыст.

**19 чэрвеня**

345 гадоў таму (1669) – Каралём Рэчы Паспалітай і Вялікім князем ВКЛ абраны Міхал Вішнявецкі (кіраваў да 10.11.1673).

100 гадоў таму (1914) – У Ашмяне нарадзіўся Уладзімір Рубацкі, летувіска-беларускі сьпявак.

90 гадоў таму (1924) – У в. Бычкі (Ушацкі р-н) нарадзіўся Васіль Быкаў, народны пісьменьнік Беларусі. З 1947 па 1978 жыў і працаваў у Гародні.

**20 чэрвеня**

220 гадоў таму (1794) – Каля Міру адбыўся бой паміж паўстанцамі Касьцюшкі і расейскім войскам.

100 гадоў таму (1914) – У в. Дзяляцічы (Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Кастусь Чабатар, удзельнік БКА, дзеяч беларускай эміграцыі (Аўстралія).

**22 чэрвеня**

95 гадоў таму (1919) – У Гародні выйшла газэта “Родны край” (выдавалася да 19.7.1919, была забароненая на 6-ым нумары).

**25 чэрвеня**

220 гадоў таму (1794) – Бой паміж паўстанцамі Касьцюшкі і расейскім войскам ля мястэчка Солы (Смургонскі р-н).

120 гадоў таму (1894) – У в. Мішуковічы (Івейскі р-н) нарадзіўся Антон Ус, беларускі і расейскі грамадзка-культурны дзеяч.

**26 чэрвеня**

195 гадоў таму (1819) – У Вільні памёр Францішак Нарвойш, асьветнік, багаслоў, філосаф, матэматык. Жыў і працаваў у Гародні.

**27 чэрвеня**

230 гадоў таму (1784) – Нарадзіўся (Піншчына) Леан Бароўскі, літаратуразнавец, педагог. У 1807-11 быў выкладнікам паэтыкі і рыторыкі ў Сьвіслацкай гімназіі.

95 гадоў таму (1919) – У в. Бігосава (Віцебшчына) бальшавікамі расстраляны Міхал Буклярэвіч, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, грамадзкі дзеяч. 24.3.1920 урачыста перапахаваны ў Іказьні (Браслаўскі р-н). Нараджэнец в. Лінгі (Вараноўскі р-н).

**29 чэрвеня**

40 гадоў таму (1974) – У Карэлічах адчынены краязнаўчы музей.

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі “Радыё Рацыя” - праграма “Людзьмі звацца!”, якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
травень 2014
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая

